В а л о д з я. Толькі без маннай кашы!

Г а н н а І в а н а ў н а (тоячы лагоднасць, строга). А ты не камандуй! Што можна, тое дадзім!

Выходзіць.

В а л о д з я. Мама, а пра які вы падарунак гаварылі?

А л а. Чуў! А мы ж па сакрэту гаварылі!

В а л о д з я. Каму вы яго?.. (Бярэ пакунак.) Гэта ён?

Л ю б а. Гэта. А падарыць яго хочуць аднаму маладому чалавеку, які сёння лічыцца імяніннікам.

В а л о д з я. Мне?!

Разгортвае пакунак.

Л ю б а. Гэта ад Алы, ад Раі, ад маіх сябровак.

В а л о д з я. Мама, я хачу ўстаць! Надзець!

Л ю б а. Потым. Паляжы яшчэ трохі! Адпачні, пакуль бабуля снеданне прынясе.

В а л о д з я. Не, я цяпер! Я ўжо адпачыў! Я ўжо дужы!

Звініць званок. Люба ідзе адчыніць. Зусім дужы!

В а л о д з я ўстае. Бярэ пакунак, хаваецца ў другім пакоі. У пакой вяртаецца Люба, уваходзіць Б ы л і ц к і.

Б ы л і ц к і. Дзе Валодзя?

Л ю б а. Выйшаў... А нашто ён табе?

Б ы л і ц к і. Я прыйшоў павіншаваць яго. Падарунак прынёс.

Л ю б а. Пакладзі яго тут. Я перадам.

Б ы л і ц к і. Я хачу бачыць яго.

Л ю б а (упарта). Я перадам яму.

А л а далікатна выходзіць.

Б ы л і ц к і. Нельга з-за рэўнасці помсціць. Гэта дробязна.

Л ю б а. Ну, калі ты такі высакародны, дык слухай. Ён толькі што паправіўся, шчаслівы. Забыўся на ўсё. Ты хочаш напомніць, захмарыць яго радасць?

Б ы л і ц к і. Я не думаю, што сустрэча са мной так захмарыць яго.

Звініць званок.

Л ю б а. Ты, здаецца, нічога не хочаш разумець.

Б ы л і ц к і. Я хачу абняць яго. Я яго бацька.

Л ю б а. Няма ў яго бацькі.

Уваходзіць Галін. Спыняецца каля дзвярэй.

Г а л і н. А... Я, здаецца, зноў не ў час...

Л ю б а. Не, якраз добра. Праходзь, калі ласка.

Б ы л і ц к і (стрымана). Цяпер я пачынаю разумець. Я, напэўна, лішні.

Л ю б а. Лішні.

Б ы л і ц к і (з гонарам). Што ж, не буду замінаць.

Кладзе пакунак, выходзіць.

Л ю б а. Сядай. У цябе такі заклапочаны твар. Здарылася што?

Г а л і н. Люба, нам трэба пагаварыць сур'ёзна. Спакойна і сур'ёзна... Ты ўвесь гэты час жыла трывогай, табе было не да нечых пачуццяў. Але мне хацелася б, нарэшце, усё высветліць...

Паўза. Люба задумалася, маўчыць.

У мяне ўсё пераблыталася. Мне здавалася, што шчасце наша так блізка.

Л ю б а. І мне здавалася.

Г а л і н. Ты з таго вечара, калі Валодзя захварэў, раптам адвярнулася ад мяне. Мы сталі нібы чужымі.

Л ю б а. Ты не памыліўся...

Г а л і н. Чаму гэта здарылася? Што змянілася?

Л ю б а. Я змянілася. Я раптам заўважыла тое, чаго раней не бачыла. Я... як табе сказаць... убачыла, што маё шчасце пры мне. Зусім не там, дзе я думала... І я ледзь не страціла яго!..

Г а л і н. Ты... расчаравалася ва мне?

Л ю б а. Не. Я табе так удзячна. Ты і сам не ведаеш, як многа ты даў мне і як мне тады было б ця без цябе. Я не забуду гэтага.

Г а л і н. Ты гаворыш, як гавораць пра мінулае. Што ж нам перашкаджае быць разам цяпер?

Л ю б а. Ты ведаеш.

Г а л і н. Валодзя? Ён не заўсёды ж будзе такім непрыхільным да мяне. Я ўпэўнен.

Л ю б а. Можа быць. Але ты не гаворыш пра галоўнае. А твая сям'я? Дзеці твае? Зіна?

Г а л і н. Я ўжо сказаў, што дзяцей не пакрыўджу.

Л ю б а. Ах, Антон, ім патрэбен не толькі хлеб і вопратка. Хто ім замяніць бацьку?.. І Зіна? Яна ж так любіць цябе!

Г а л і н. Але я не люблю яе!

Ціха ўваходзіць Валодзя, у новым касцюме, шчаслівы. Яго не заўважаюць. Ён спыняецца.

Л ю б а (узрушана). Мабыць, гэтыя словы казаў і ён, пра мяне! (Стрымліваючыся.) Зіна цябе так любіць, як ніхто ўжо не будзе любіць! Вярніся! Яна табе даруе!

Г а л і н. Я не вярнуся! (Амаль злосна.) Няўжо ж я не маю права любіць?!

Л ю б а. А ты не думаў, хто нам даў права рабіць іншых няшчаснымі?! Хто нам даў права для свайго шчасця нявечыць жыццё другіх!

В а л о д з я ціха выходзіць.

Антон, у цябе такія цудоўныя дзеці! А ты хочаш паказаць сябе няшчасным!

Г а л і н. Гэта ўсё? Апошняе слова?

Л ю б а. Усё. І дай я цябе пацалую! (Цалуе Галіна.) Ідзі!

Г а л і н выходзіць. Люба стаіць усхваляваная, задуменная. Паяўляецца Валодзя, ён ужо не такі бесклапотны, як хвіліну назад.

В а л о д з я. Мама, глядзі. Якраз па мне.

Л ю б а. Ну, вось і добра! (Абдымае яго.) У цябе штосьці непрыемнае?

В а л о д з я. Не, у мяне нічога.

Л ю б а. Чаму ж ты такі невясёлы?

В а л о д з я. Дык от ты нешчаслівая...

Л ю б а. Што ты сказаў?! Адкуль ты ўзяў, што... я нешчаслівая?

В а л о д з я. Адзінокая ты. Няма ў цябе нікога такога... хто любіць...

Л ю б а. Чаму нікога? А Ала, а Рая? А баба Ганна? А ты? Хіба ты не любіш?

В а л о д з я. Люблю! Я так люблю!

Л ю б а. Ну, дык каго ж мне яшчэ трэба?

Стаяць, абняўшыся.

*Заслона*

1957. 1960 гг.